

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 1(72) Студзень 2000 January Год выд. 8.


## ЕЛЬЦЫН АДКАЗАЎСЯ АД ЦАРСКАГА ТРОНУ...

***Рашэньне Ельцына аб датэрміновым сыходзе са сваёй пасады цалкам адпавядае расейскай Канстытуцыі. Паводле асноўнага закону РФ, прэзыдэнт датэрмінова можа спыніць свае паўнамоцтвы ў выпадку адстаўкі, няздольнасьці зьдзяйсьняць свае абавязкі паводле стану здароўя альбо адхіленьня ад пасады. Пры гэтым выбары новага прэзыдэнта павінны адбыцца не пазьней як праз тры месяцы. Такім чынам, Барыс Ельцын наблізіў прэзыдэнцкія выбары ў Расеі – цяпер яны адбудуцца ў красавіку.***

Рашэньне Ельцына было настолькі нечаканым, што нават адразу пахіснула рынак акцыяў: як паведамляе ИТАР-ТАСС, у першыя хвіліны пасьля сэнсацыйнага паведамленьня катыроўкі найбольш ліквідных расейскіх акцыяў упалі ў сярэднім на 3 адсоткі. Потым цэны пачалі расьці і апоўдні падзеньне было ўжо цалкам скампэнсаванае.

Прэызыдэнт Францыі Шырак аддаў даніну "гістарычнай ролі Ельцына ў вырашальны для Расеі, Эўропы і ўсяго сьвету пэрыяд". Шырак зьвярнуў увагу на моцныя "асабістыя сувязі", якія склаліся паміж ім і Ельцынам і спрыялі падтрыманьню на высокім узроўні супрацоўніцтва абедзьвюх краінаў". Шырак накіраваў таксама вітальны ліст Уладзімеру Пуціну.

Як нечаканасьць расцаніў прэзыдэнт Эстоніі Ленарт Мэры рашэньне Ельцына. Тым ня менш, Мэры ўпэўнены, што у дачыненьнях паміж Расеяй і Эстоніяй захаваецца пераемнасьць, і істотных зьменаў ня будзе. Прэзыдэнт Літвы Валдас Адамкус таксама "зьдзіўлены" нечаканай адстаўкай Ельцына, аднак выказаў упэўненасьць, што "у Расеі стабільнасьць і надалей будзе захаваная". "Польскі ўрад з увагай прыняў да ведама рашэньне Барыса Ельцына," – гаворыцца ў заяве, якую агучыў міністар замежных справаў Браніслаў Гэрэмэк. Польшча выказвае спадзяваньне, што крызыс у Чачні знойдзе палітычнае вырашэньне, і вайна будзе спыненая. З задавальненьнем адзначаныя апошнія выказваньні Пуціна, якія сьведчаць пра "імкненьне разьвіваць партнэрскія і добрасуседзкія дачыненьні паміж Польшчай і Расеяй".

"Я ўражаны! Гэта – самая эфэктная канцоўка 20 стагодзьдзя, якая толькі магла быць. Гэтая навіна – не маясцовага, не расейскага маштабу", – заявіў у інтэрвію радыёстанцыі "Эха Масквы" адзін з лідэраў НДР, дэпутат ДзяржДумы Ўладзімер Рыжкоў. – Гэта – блiскучы, абсалютна прадуманы і лягічна выверany палітычны крок. Толькі што адбыліся парлямэнцкія выбары, на якіх Пуцін атрымаў перамогу, а ўсе ягоныя праціўнікі зазналі паразу і знаходзяцца ў дэпрэсіі". Паводле Рыжкова, Барыс Ельцын прыняў сваё рашэньне "у кульмінацыйны момант", калі "ніхто так не падрыхтаваны да выбараў, як Уладзімер Пуцін – ягоная папулярнасьць знаходзіцца ў вышэйшым пункце, і няма ніякіх прыкметаў ейнага падзеньня, ён дзеяздольны і актыўны", – зазначыў Уладзімер Рыжкоў.

Амэрыканскія СМІ таксама адзначаюць папулярнасьць Пуціна.

Тэлекампанія CNN, у прыватнасьці, падкрэсьлівае, што гэтая папулярнасьць павінна дапамагчы яму працягваць і паглыбляць дэмакратычныя рэформы ў Расеі. Гутарка ідзе пра зьмену пакаленьняў у кіраўніцтве вялікай краіны, – зазначае CNN. Агенцыя "Associated Press" піша, што рашэньне наконт зьмены крамлёўскага кіраўніка было прынятае "на вяршыні посьпеху", дасягнутага рэфарматарскімі сіламі пад час нядаўніх парлямэнцкіх выбараў."

Адзначыў гістарычную ролю Ельцына і выказаў гатоўнасьць да супрацоўніцтва з Пуціным Біл Клінтан. У Белым Доме разглядаюць рашэньне Ельцына як "драматычны крок з элемэнтам сюрпрызу", які, аднак, "не зьявіўся поўнай нечаканасьцяй".

Прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма расцэньвае дабраахвотны сыход з пасады прэзыдэнта – як "мужны крок чалавека, які жадае шчасьця і росквіту сваёй краіне." У заяве Герхарда Шродара падкрэсьліваецца, што ў справе палітычных і эканамічных рэформаў Пуцін можа разьлічваць на падтрымку Нямеччыны.

Тыповым для сёньняшняй заходняй рэакцыі можна назваць выступ Міністра Замежных справаў Вялікабрытаніі Робіна Кука.

(Кук) "Пад час знаходжаньня прэзыдэнта Ельцына на ягонай пасадзе, Брытанія і Расея пабудавалі трывалыя двухбаковыя адносіны. У інтарэсах абедзьвюх краінаў умацоўваць гэтая адносіны. Мы з нецярплівасьцяй чакаем маг- чымасьці працаваць з Уладзімерам Пуціным. Ад расейскага народу залежыць, каго ён абярэ прэзыдэнтам. Гэта посьпех Ельцына, што ён стварыў сытуацыю, у якой, пасьля ягонай адстаўкі аднаму дэмакратычна абранаму прэзыдэнту Расеі будзе наступнічаць другі праз дэмакратычны выбар народу Расеі".

Заходнія аналітыкі, аднак, уважаюць, што адыход Ельцына пацягне за сабой некторую зьмену ў адносінах паміж Захадам і Расеяй. Што маецца на ўвазе? Працяглы час дачыненьні Захаду з Расеяй былі ў большай ступені пэрсанальнымі, чымся палітычнымі. Гэта значыць – дачыненьні паміж кімсьці пэрсанальна на Захадзе і чарговым маскоўскім лідэрам. Так было і за Брэжнеўскім часам, і за Гарбачоўскім, і за Ельцынаўскім. Кожная зьмена ў Крамлёўскіх вярхох патрабавала навязваньня новых пэрсанальных сувязяў.

Гэта, па-першае, брала шмат часу, а, па-другое, кожны раз даводзілася абдумваць, якімі павінны быць гэтая новыя адносіны з новым чалавекам. "Гэта тычыцца і цяперашняй сытуацыі: і з-за чэкісцкай біяграфіі Пуціна, і з-за сытуацыі ў Чачні," – зазначае Вашынгтонскі аналітык радыё "Свабода" Пол Гоўбл. – Вядома, палітыкі цяпер будуць расхвальваць Ельцына і абяцаць супрацоўнічаць з Пуціным, аднак, новы выканаўца абавязкаў прэзыдэнта разглядаецца як аўтарытарная асоба, што нельга назваць вітаным на Захадзе".

З-за асабістых сувязяў Ельцына на Захадзе і з-за ягоных заслугаў у галіне развала СССР, дэмакратызацыі і ўсталяваньня рынкавай эканомікі заходнія лідэры стрымлівалі сваю рэакцыю на некаторыя расейскія дзеяньні апошняга часу, якія маглі б быць больш рэзка крытыкаванымі і пацягнуць за сабой скарачэньне дапамогі Расеі. Маецца на ўвазе, напрыклад, Маскоўская апазыцыя кампаніі НАТО ў Югаславіі і імкненьне, насуперак дамоўленасьцям, заняць Прышціну раней за аліянтаў, нарошчваньне дачыненьняў зь Іранам ды Іракам, а таксама іншымі антызаходнімі краінамі, вайна ў Чачні і г.д. Цяпер многія заходнія палітыкі ўважаюць, што надыйшоў час узьняць голас супраць падобных дзеяньняў Расеі.

**Алена Радкевіч, Прага**



**Спадарыня Кацярына ВІНІЦКАЯ — ведамая нацыянальна-грамадзкая дзеячка ў Замежжы, асабліва ў Каліфорніі, ЗША., заслужаная прапагандыстка беларускае незалежніцкае ідэі, вялікая патрыётка свайго народу.**

**Дарагая Кацярына! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.**



### У. Пуцін прадстаўляе свае пагляды...

Расея была і застанецца вялікай краінай, – напісаў Пуцін на 14-ці старонках свайго абшырнага эсэ. Ён выказаўся ў падтрымку заходніх ідэалаў дэмакратыі і свабоднага рынку з аднаначасовай вернасьцю традыцыйным расейскім каштоўнасьцям.

"Расея ня мае намеру стацца новымі Злучанымі Штатамі або Вялікай Брытаніяй, ў якіх лібэральныя каштоўнасьці маюць свае глыбокія карані", – напісаў ён. "У нас калектыўны ўклад жыцьця заўсёды дамінаваў над імкненьнем да індывідуалізму".

Паводле Пуціна, "глябальнае дасьведчаньне паказвае, што асноўная пагроза для правоў чалавека і дэмакратыі зыходзіць ад выканаўчай улады". Тым ня менш, на ягоную думку, у краіне павінна быць моцная ўлада, але дзяржава павінна пакідаць грамадзяніну свабоду там, дзе гэта неабходна.

На думку спэцыялістаў гэткім чынам памазаны Ельцыным на свайго пераймальніка Ўладзімер Пуцін прадставіў сваю выбарчую плятформу перад прэзыдэнцкімі выбарамі і дэ-факта ўжо пачаў перадвыбарчую кампанію.

**Кастусь Бандарук, Прага**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

**Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364**

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *Якім будзе палітычны 2000 год?*

Палітычныя прагнозы – справа надзвычай няўдзячная, асабліва ў краіне, дзе правілы палітычнае гульні нявызначаныя, дакладней кажучы, дзе зьяўленьне саміх правілаў – ужо йстотная перамога.

Дарэчы, увесь адыходзячы 1999 год прайшоў менавіта ў змаганьні за гэтыя правілы. Да гэтага жанру адносіліся і альтэрнатыўная кампанія ў выбарах прэзыдэнта, і барацьба вакол сканчэньня легітымных паўнамоцтваў прэзыдэнта, і, нарэшце, перамоўны праект, прапанаваны Захадам.

Падводзячы вынікі, можна казаць аб маральнай перамозе: Беларусь даказала сабе і ўсяму свету, што яна яшчэ жывая, што ня ўсе скарыліся самаўладзьдзю. Але ў чыста палітычным пляне йстотных зьменаў не адбылося – спробы стварыць паралельную вольную Беларусь ня мелі посьпеху.

Пасьля пераваротнага рэфэрэндуму 1996 году здавалася, што прызнаньне нелегітымнасьці створанага рэжыму з боку сусьветнае супольнасьці – найвялікшая перавага апазыцыі, якой ня мела аніводная антытаталітарная апазыцыя ў краінах Усходняй Эўропы.

Але перавага абярнулася ці не пасткаю. Прызнаньне Захадам легітымнасьці Вярхоўнага Савету на Захадзе тым ня менш не паспрыяла падвышэньню ўплыву й ролі апазыцыі на Бацькаўшчыне. Да таго ж высьветлілася, што Захад у рэшце рэшт таксама лічыцца з рэальнай растаноўкаю сілаў у Беларусі: вяртаньне амбасадараў, удзел Лукашэнкі ў Стамбульскім саміце АБСЭ падцьвердзілі, што дэ-факта сьвет прызнае тых, хто мае спраўдную ўладу.

У 1999 годзе вызначылася новая тэндэнцыя: і ўдзел апазыцыі ў перамоўным працэсе, і раскол Фронту сьведчылі аб памкненьні вярнуцца ў рэальнасьць, у рэальную палітыку.

Падаецца, што парлямэнцкія выбары, якія мусяць адбыцца ў будучым годзе, стануць ня толькі галоўнай падзеяй надыходзячага году, але вызначаць шлях разьвіцьця Беларусі на некалькі гадоў наперад.

Апазыцыя мае неблагія шанцы атрымаць дастаткова сур'ёзнае прадстаўніцтва ў заканадаўчым воргане. І ў дадзеным выпадку ня мае значэньня, наколькі папулярны Лукашэнка: досьвед суседніх краінаў паказвае, што людзі вельмі часта галасуюць на парлямэнцкіх выбарах, зыходзячы з матыву пратэсту, каб абмежаваць хай сабе й папулярную выканаўчую ўладу.

Часам можна пачуць меркаваньне, што ў цяперашніх умовах у Беларусі можа быць абраны толькі "кішэнны" парлямэнт. З пункту гледжаньня юрыдычна вызначаных паўнамоцтваў, гэта, магчыма, і так, але зьяўленьне пляцоўкі публічнае палітыкі, цэнтру калі ня ўлады, дык легітымнага шуму, выклікае шмат непрадказальных, і дастаткова непрыемных для выканаўчай улады наступстваў.

Сучасная расейская Дзяржаўная дума, напрыклад, таксама мае няшмат канстытуцыйных паўнамоцтваў, але нездарма пад час апошніх расейскіх выбараў ішлі такія жорсткія палітычныя бойкі. У рэшце рэшт самы бясьсільны, але свабодна абраны парлямэнт хутчэй знойдзе прыхільнікаў ува ўладнай "вэртыкалі", чым "вулічная" апазыцыя, акцыі якой толькі мацуюць "вэртыкальны" маналіт.

Іншая справа, што й беларуская ўлада выдатна гэта разумее. Па тым, як яна зрывае перамоўны працэс, можна зрабіць выснову, што яна мае намер ператварыць выбары проста ў прызначэньне сваіх людзей.

І ня ў тым тады будзе справа, што такі прызначаны парлямэнт ня будзе прызнаны сьветам. Гэта на некалькі гадоў закрые для Беларусі эвалюцыйны шлях разьвіцьця, разьвіцьця праз згоду эліты.

Застануцца іншыя, абодва непажаданыя. Адзін – дэградацыйны, далейшае ўмацаваньне самаўладзьдзя. Другі – рэвалюцыйны.

Пасьля вызваленьня ад камунізму краінаў Усходняе Эўропы выраз "аксамітная рэвалюцыя" стаў прывабным вобразам. Але на "аксаміт" можа пашэнціць, а можа й не.

Улічваючы народную сьвядомасьць, хаця б тое, каго народ усенародна абірае сваім кумірам, пакідае шмат шанцаў на тое, што народны пратэст можа мець зусім іншы характар, паводле выразу расейскага клясыка, безсэнсоўны й бязьлітасны. Чаго сваёй краіне, пры ўсёй нелюбові да дыктатуры, жадаць ня варта.

**У будучым годзе Беларусь апынецца на вельмі адказным раздарожжы.**

*Юры Дракахруст, Менск*

## Праект праграмы падтрымкі беларускамоўнай адукацыі распрацаваны ў Міністэртве адукацыі краіны

**Праект праграмы, накіраванай на падтрымку беларускамоўнай адукацыі, распрацаваны ў Міністэрстве адукацыі нашай краіны. Яна закранае ўсе ўзроўні навучання – ад дашкольнага да паслядыпломнага. Асаблівая ўвага ўдзяляецца вышэйшым і сярэднім спецыяльным навучальным установам. Перш за ўсё плануецца пашырыць выкарыстанне беларускай мовы ў гуманітарных і педагагічных навучальных установах.**

**Немалаважнай з'яўляецца і тая частка праграмы, якая прадугледжвае ўвядзенне ў кожнай ВНУ двух патокаў – беларускамоўнага і рускамоўнага. Менавіта такім чынам у Міністэрстве адукацыі вырашылі адказаць на заклікі стварыць Нацыянальны універсітэт.**

**Цяпер пераважнай мовай навучання ў Беларусі з'яўляецца руская. У мінулым навучальным годзе на ёй вучылася амаль 70 працэнтаў школьнікаў.**

## Biełaruskaja Radyjopieradača „Mahutny Boža"

Kožny tydzień u prostym efiry na chvalach radyjo «Maryja» słuchajcie kulturna-relihijnuju pieradaču «Mahutny Boža». Pieradača rychtujecca siabrynaj katalikoú-biełarusaú Sankt-Pieciarburhu dla biełaruskaj dyjaspary Sankt-Pieciarburhu i vobłaści. Vy pačujecie Słova Božaje na rodnaj movie, naviny ź Biełarusi, histaryčnuju i litaraturnuju rubryki. Padčas pieradačy Vy možacie telefanavać u studyju pa telefonie (812) 325-64-64 i zadavać svaje pytańni.

Pieradača vychodzić štosubotu a hadzinie 17.15 na UKCh (FM)-chvalach (68.66), a taksama na siarednichchvalach(1053).

## ПЕРАКЛАДЫ ЧЭСЛАВА СЭНЮХА.

Труізмам было-б даказваць значэньне культурнага абмену між народамі, а тым больш між суседзямі. Значнасьць гэтай праблемы для Беларусі, якая да развалу савецкай імпэрыі, у паспалітым разуменьні іншых грамадстваў зьмяшчалася ў рамках геаграфічна-адміністрацыйнага паняцьця дзяржавы саветаў, мае асаблівае значэньне. Датычыць гэта перш за ўсё польскага грамадства, для якога, як акрэсьліў Сакрат Яновіч, Беларусь — гэта ўсё яшчэ "terra incognita". Калі ўлічыць нават у гэтае акрэсьленьне літаратурную мэтафорыку, то і так не мінаецца яно з фактычным станам рэчы. Праўда — мінуў той час, калі пасрэдны жыхар Польшчы ня бачыў розьніцы між паняцьцямі рускі ці беларус, падпарадкоўваючы ўсё пад пагардлівы назоў "русэк". Шум вакол аб'яўленай незалежнасьці Беларусі, змаганьне слабых усё яшчэ палітычных і грамадзкіх паступовых структураў супраць рэстаўрацыі бальшавізму і замацаваньня русыфікацыі краіны шляхам алігархізацыі палітычнага і грамадзкага жыцьця мэтадамі дыктатарскага панаваньня, хочашняхочаш, спапулярызаваў Беларусь як дзяржаву і яе народ з уласнай мовай, гісторыяй, культурай.

Нарастаючыя кантакты між польскімі і беларускімі культуратворчымі асяродзьдзямі, у тым ліку між літаратарамі (асабліва пасьля 1991 году), далі ўжо заўважальныя вынікі. Найдышоў час і неабходнасьць шырэйшай узаемнай папулярызацыі і абмене культурных дасягненьняў, у тым ліку пісанага слова. Моўны бар'ер — зразумела — не спрыяе гэтай ідэі. На дапамогу ёй змабілізаваліся перакладчыкі літаратурных твораў, між іншым і паэзіі, якая ставіць перад перакладчыкам асаблівыя патрабаваньні. Паэзія вымагае ад яго дасканалага разуменьня і тэарытычных ведаў мовы перакладу, паэтычных здольнасьцяў, разуменьня і вывучэньня ідэі перакладанага тэксту, зьмешчаных у ім пачуцьцяў ды адтварэньня якасьцяў верша ў перакладзе.

Дасканалы пераклад здольны паканаць моўныя і нават культуровыя перашкоды і аб'яднаць пачуцьці не абавязкава кроўных сабе народаў. Прыкладам гэтага могуць служыць пераклады знаўцы псыхікі і культуры Беларусаў — нямецкага графа Аўгена фон Энгельгардта. Успамінае аб гэтым Уладзімір Сакалоўскі ў артыкуле "Да гісторыі нямецка-беларускіх літаратурных сувязяў", дзе ён піша: "у перакладзе А. Энгельгардта М. Багдановіч явіўся перад нямецкім чытачом як вялікі нацыянальны паэт, лірык эўрапейскага значэньня". ("Weissrussland und der Westen". Dresden University Press, 1998). Дарэчы, паводле У. Сакалоўскага, у "Малой славянскай біяграфіі" выдадзенай у Вісбадэн у 1958 г. "найбольш поўна і аб'ёміста, у біяграфіях сваіх лепшых прадстаўнікоў, паказана Беларусь").

Вернемся аднак да Максіма Багдановіча. Задэклямаваная на польскай мове "Пагоня" М. Багдановіча перакладчыкам яе — Чэславам Сэнюхам, у часе "трыялогу беларускага", з нагоды інаўгурацыі цэтра беларускай культуры "Villa Sokrates" у Крынках 16-га жніўня 1999 г., выклікала ў прысутных паралізуючае ўражаньне. Захапляючае дух маўчаньне ад нечаканага пачуцьця эмоцыі, перапыніў сам гаспадар сустрэчы Сакрат Яновіч сардэчнымі віншаваньнямі, падзякай і абдымкамі перакладчыка. Гэта пераклад ня толькі тэксту ды слоў. Перакладчык "Пагоні", шляхам умелых слоўных сфармуляваньняў зьместу верша, перанёс у пераклад тыя пачуцьці назначаныя мастацкім выяўленьнем патрыятызму, той дынамікі пагоні і веры ў яе незьнішчальнасьць, словам — зьбярог адчутую ім душу верша М. Багдановіча.

Дасканалыя пераклады беларускай паэзіі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Натальлі Арсеньневай, Янкі Брыля, Алеся Барскага і іншыя — дакананыя Чэславам Сэнюхам учынілі яго ведамым у асяродзьдзі польскай і беларускай культуры ў Польшчы і на Беларусі. Мэтазгодным аднак будзе аддаць голас самому Спадару Чэславу.

Я. Ж. Спадар Сэнюх. Ваш удзел у ваўсіх практычна мерапрыемствах зьвязаных з беларускай культурай у Польшчы, у шматлікіх імпрэзах гэтага тыпу на Беларусі, сьведчыць аб Вашым зацікаўленьні беларускаю культураю і добраю знаёмасьцю з ёю. Больш таго — у перакладах беларускай паэзіі на польскую мову Вы пасьпяхова захоўваеце ня толькі сэнс, але трансплянтуеце дасканала ідэю кожнага арыгіналу і ўложаныя ў верш пачуцьці аўтара. Раскажэце, калі ласка, як Вы — паляк па

нацыянальнасьці, польскі дзеяч культуры і патрыёт асягнулі такую ступень утаемнічэньня і заангажаваньня ў беларусчыну?

Ч. Сэнюх. Па-першае, калі ў маім радаводзе бацька Станіслаў — паляк і католік з дзядоў Сяняўскіх і з маці Скшынэцкай, то мая мама Стэфа была беларускай з уніятаў. Мой дзед, як кажуць, па кудзелі меў прозьвішча Шмык, а бабуля Анна паходзіла з Норыкаў. /Паводле легенды тыя Шмыкі выводзіліся ад нейкага напалеонаўскага жаўнера Шмідта, які па дарозе з пад Беразіны замярзаў над Нёманам, быў прыгорнуты Карусяй ці Марцэляй з Воўкаразі, дзе ён і асыміляваўся. Саветы пераіменавалі Воўкаразь у трывіяльную "Пабеду", так што Воўкаразь зараз не існуе/. Значыць я палавінчна беларус і праўдападобна лягчэй мне прыходзіцца атоесамленьне з беларушчынай.

Па-другое не малаважную ролю сыграла ў гэтым гісторыя. Я быў хлопцам, калі немцы прагнаўшы бальшавікоў акупавалі Беларусь. Настала беларуская школа. У Любчы над Нёманам яна памяшчалася на даўным замку. Там я і закончыў 7 клясаў, якраз да прыходу другіх бальшавікоў. За гэтыя тры гады я палюбіў беларускую мову, літаратуру, песьню. Разам з сястрою мы ўдзельнічалі ў гуртку самадзейнасьці, дзе я іграў на гітары ці мандаліне, чытаў са сцэны вершы М. Багдановіча, Янкі Купалы, а са старэйшай ад мяне на 10 год сястрой Гэленай сьпявалі мы багдановічаўскі "Раманс", "Люблю наш край" К. Буйлы з музыкай, якую мы ведалі яшчэ з часу II-й Рэчыпаспалітай. З настаўнікаў памятаю Кастуся Бітуса, Хмялеўскага, які вучыў нас нямецкай мове, Гінца ды Вітаўта Казака — павятовага кіраўніка Саюзу Беларускай Моладзі. Гэтага прыгожага маладога важатага я сустрэў ужо ў Варшаве, дзе я асеў з 1950-га году — часоў студэнцкіх. Мы з ім адразу нагадалі і засьпявалі наш СБМ-маўскі гімн:

Беларусь! Хай слова гэта
Будзіць новы дух між нас!
Нам дабро яе — во мэта
І найвышэйшы наш наказ.

Ні сьляза, ані стагнаньне,
Ні пакора ані страх,
Толькі праца і змаганьне —
Гэта наш да мэты шлях.

Я ніколі не забыўся на сваю духоўную польскасьць і сваіх бацькоў. У гэтым адчуваньні сябе палякам тадышняя беларускасьць нічуць мне не замінала. Можа нават наадварот: углыбляючыся ў беларускасьць, у летуценьні і мары пра беларускі вольны край, я лепш разумеў маіх польскіх герояў: Конрада Валенрода, Ордона, Касьцюшку, Пілсудзкага, які для мяне тадышняга ўвасабляў усё самае патрыятычнае, шляхетнае, высокае. Таго самага шукаў я і ў беларушчыне. Памятаю з якім накалам сьпявалася песьня:

Мінуў ужо час, калі сын Беларусі
Ў няволі доўгай жыць павінен быў,
Руку працягваў у бок маскоўскай Русі,
Ў Картуз-Бярозе век свой цэлы гніў...

Я шчыра верыў, што "мінуў ужо час няволі". Балазе мінуў, здавалася, назаўсёды жахлівы час бальшавікоў, забойцаў майго бацькі (загінуў ён у Сібіры ў 1941 годзе) і маёй улюбёнай крэсавай Польскі. Акупацыйная рэчаіснасьць пярэчыла высокім ідэалам, гінулі блізкія людзі. Хлопцу трэба было веры ў добры бок жыцьця, хоць яно разьвейвала ілюзіі ўсё часьцей і часьцей. Найцяжэйшыя выпрабаваньні прынесла ліквідацыя любчанскага гета, а трохі пазьней — праз год — другі прыход "слепой жестокой силы". Прыйшла пара пакінуць родны кут.

Я. Ж. Якая Вашая ацэна сёньня — чалавека ўзрослага, адукаванага, дасьведчанага жыцьцём — тых вашых юнацкіх дзён, асяродзьдзя ў якім Вам прышлося тады жыць і атмасфэры пануючай у тым грамадзтве?

Ч. С. Каб мне ў той час было толькі год колькі мелі старэйшыя хлопцы — сябры маёй сястры Гэлены — я-б рабіў дакладна тое, што рабілі яны: змагаўся-б за свае ідэалы. Ня ведаю толькі ці быў-бы ў эскадроне Б. Рагулі, ці можа ў генэрала "Вілька" — Кжыжаноўскага, калі-б злажыў прысягу А. К. Абедзьве арыентацыі вырасталі з патрыятызму, з любові да наднёманскай радзімы, якая іх пасвояму апраўдвала. На жаль між імі сьвісталі пулі, ад якіх загінуў ці адзін... ліцьвін беларуска і польскамоўны... Сёньня, як сталы ўжо немалады чалавек, паляк, застаюся патрыётам Вялікага княства Літоўскага і, як такі, прыняў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі.

Я. Ж. Вернемся да Вашай перакладчыцкай дзейнасьці. Была яна Вамі намераная, запраграмаваная, ці справіў гэта прыпадак, нейкая нечаканасьць?

Ч. С. Мне ішоў пятнаццаты год, калі прышлося пакінуць родную Любчу. Сьпярша Гэлена, а пасьля і я з мамаю "переехалі" ў Беласток. (Гэтую сталінскую этнічную чыстку называлі "рэпатрыяцыяй". Была, канешне, альтэрнатыва: "черная металургия" на Урале. У сястры захавалася гэтае запрашэньне, з якога яна чамусь не скарыстала). Трэба было наганяць упушчаную за гады акупацыі польскую школу. Беларушчына пачала адыходзіць на другі плян. Памяці трымаліся толькі песьні ды вершы. Я іх стаў чытаць аднойчы ў 1981-м годзе знаёмаму працаўніку савецкага пасольства — Аляксею Каўко. Гэта быў якраз "Прарок" Янкі Купалы. Дык вазьмі і перакладзі яго на польскую мову — сказаў Аляксей. Набліжаецца сотая гадавіна нараджэньня паэта. Я і пераклаў. Пераклад спадабаўся Аляксею — шчыраму беларускаму патрыёту — знаўцу беларускай мовы і літаратуры. Пераклад разам з фрагмэнтам "Безназоўнага" надрукаваў у падрыхтаваным да юбілею зборніку Аляксандар Баршчэўскі. Так і аб'явілася тая беларушчына, якую я прысвоіў сабе ў любчанскай беларускай школе.

Я. Ж. Вашыя пераклады вельмі станоўча ацэнены А. Каўко, А. Барскім, Сакратам Яновічам, Я. Чыквінам і шмат іншымі. Найлепшым аднак, у маім перакананьні, доказам якасьці вашай перакладчыцкай працы — гэта прапанова Янкі Брыля — заняцца перакладам паэмы "Новая Зямля" Якуба Коласа, якую беларусы лічаць эпапэяй. Што Вы можаце сказаць чытачам на гэтую тэму?

Ч. С. Я вельмі ўдзячны Я. Брылю за моцны імпульс. Балазе ён прыйшоўся на спрыяльны момант, калі я ўжо пасьпеў праняцца ўдзячнасьцю беларускім перакладчыкам "Пана Тадэуша" Адама Міцкевіча: Браніславу Тарашкевічу і Язэпу Сяміжону. Ведаў таксама і аб тым, што існуе трэйці поўны і ці не найлепшы пераклад Пятра Бітэля /сёньня маю яго ў сваёй хаце дзякуючы выдатнаму трохмоўнаму выданьню "Пана Тадэуша" пад рэдакцыяй Язэпа Янушкевіча, за што яму маё прызнаньне/. Я адчуў, што лёс даручае мне важнае заданьне: зрабіць тое, што павінна быць даўно зроблена для польскай культуры — прывіць ёй шэдэўр беларускай эпіцкай паэзіі — "Новую Зямлю" Якуба Коласа. Вось працую над яе перакладам ужо восем год. За гэты час перакладзены мною дваццаць з трыццаці песьняў. Гэткая мая праца можа паказацца залішне маруднай. Яно і папраўдзе так, але ёсьць для гэтага сур'ёзныя прычыны. Па-першае — сама матэрыя паэмы складаная ў культурным і рэчыўным пляне. Хроніка рэальнага жыцьця канкрэтнай беларускай сялянскай сям'і, насычаная багацьцем характараў, рэчаў, здарэньняў, сытуацыяў. Пры тым падзеі адбываюцца ў рэчаіснасьці стогадовай даўнасьці. Усё гэта патрабуе ад перакладчыка дакладнасьці, скрупулёзнасьці, клапатлівасьці ў знаходжаньні польскіх эквівалентаў, а значыць і адпаведна больш часу. Па-другое трэба часам падумаць і пра "хлеб наш штодзённы". З гэтым намерам займаюся журналістыкай і публіцыстыкай, што аддымае шмат псыхічнай і фізычнай сілы, ня кажучы пра тое, што вяртаньне на "Новую Зямлю" гэта ізноў доўгае падарожжа ў пачатак стагодзьдзя... Марыцца нейкая стыпэндыя ці, як кажуць сёньня, спонсар, каб пасьпець з заканчэньнем перакладу да 120-ай гадавіны нараджэньня Якуба Коласа ў 2002-м годзе.

* * * *

Лёс ашчадзіў Чаславу Сэнюху змаганьня за ідэі шляхам дзе "сьвісталі пулі". Наадварот у яго пачуцьцях замацавалася пашана вольнасьці і культуры так польскай, як і беларускай, падбудаваная здабытымі ведамі, узбагачаная асабістаю ўражлівасьцю і здольнасьцю пераказу іншым. Кіруючыся гэтай думкай выбраў ён шлях узаемнага збліжэньня, якому служаць, між іншага, яго пераклады.

Пераклад "Новай Зямлі" Я. Коласа насычаны духам арыгіналу, разуменьнем ідэі, вычуцьцём эпохі, калярытнасьцю характараў герояў — людзей і іх звычаяў, умоваў, спосабу і сэнсу іх жыцьця ды смаку працы ў цесным сымбіёзе з цудоўнай натурай.

Вынік працы зьяўляецца доказам літаратурных здольнасьцяў, дасканаламу веданьню польскай і беларускай моваў, багацьцю іх характэрных асаблівасьцяў ды знаёмасьці паэзіі.

Сваю скрупулёзную, як зазначыў ён, працу над "Новаю Зямлёю" выконвае, на жаль, адзінока, у нялёгкіх варунках асабістага жыцьця, у міжчасе прысьвечаным на публіцыстычную дзейнасьць дзеля жыцьцёвых неабходнасьцяў, у дапаўненьні да скромнай пэнсіі. Не аглядаючыся на спадзяваную дапамогу не паменьшвае волі дзеяньня, узроўню перакладу маючы на ўвазе 120-ю гадавіну нараджэньня аўтара твору ў 2002-м годзе.

Запісаў Янка Жамойцін.
Варшава.

За згодаю аўтара перакладаў далучаю некалькі перакладаў, дзеля магчымага выкарыстаньня ў тэксьце інтэрв'ю...

**Natalla Arsieniewa**

MODLITWA

Wszechmocny Boże! O Panie światów,
słońc przeogromnych i małych serc!
Osłoń Białoruś cichą w bławatkach,
opromień chwałą swych ziemskich twierdz!

Daj plon nam w pracy codziennej szarej
na chleb powszedni, na ojców kraj.
Szacunek, siłę i wielkość wiary
w prawdę i w przyszłość naszą nam daj!

Daj plenność polom i żytnim niwom,
spraw nad omłotem dostatku cud.
Uczyń swobodną, uczyń szczęśliwą
krainę naszą, cały nasz lud!

Przełożył Czesław Seniuch

Maksim Bahdanowicz

POGOŃ

Kiedy serce trwożliwie zadręcza,
Lęk o losy tej ziemi, tych chat,
Ostrą Bramę wspominam najświętszą
I rycerzy, co pędzą jak wiatr.

Całe w pianie cwałują ich konie,
Im nie straszne ni piekło, ni noc.
Starodawnej litewskiej Pogoni
Żadna zła nie powstrzyma już moc.

Wieki płyną za wami, przed wami,
I ten wciąż nie kończący się szlak...
Za kim gnacie tak, lśniąc kolczugami,
Gdzie się skończy ten pęd wasz i jak?

Białorusi! A może ci konni
Twoich synów ścigają przez świat,
Bo zdążyli już ciebie zapomnieć
Opuszczoną, w niewoli od lat?

Ach uderzcie w ich serca mieczami!
Nie pozwólcie obcymi się stać!
Niech im pamięć o domu nocami
Każe tęsknić i cierpieć, i łkać.

Matko moja - Ojczyzno jedyna!
Lepiej nie żyć, niż stracić swój kraj.
Przebacz zdradę i przyjm swego syna
Albo umrzeć za ciebie mu daj!

Ciągle pędzą i pędzą te konie
I nie straszne im piekło ni noc.
Starodawnej litewskiej Pogoni
Żadna zła nie powstrzyma już moc!

Przełożył Czesław Seniuch

## "Дажыліся!"

Узяцца, як гавораць, за пяро" і выказаць набалелае прымушае сённяшні стан жыцця сельскага жыхара. Нельга пазайздросціць і гарадскому працоўнаму люду нашай краіны, але нават лютаму ворагу не пажадаў бы апынуцца ў такім сацыяльна-эканамічным становішчы ў якім сёння знаходзіцца наша вёска, нашы сяляне, пенсіянеры, працоўная калгасная моладзь, інтэлігенцыя, дзеці, інваліды. Калі гаварыць пра апошніх, то не памылюся – іх у сельскай мясцовасці, сярод усіх жыхароў, 20-30%. І гэта ўвогуле не інваліды ад нараджэння, а тыя, хто страціў сваё здароўе і працоўны стан на палях і фермах у калгасных майстэрнях. Як правіла, сельскія пенсіянеры – інваліды І-ІІ-ІІІ груп доўга не жывуць, як недажываюць чалавечай магчымасці да доўгага жыцця і астатнія пенсіянеры. Спецыяльных статыстычных дадзеных па гэтых паказчыках у нашай краіне ніхто не праводзіць, і я ўпэўнены, што доўга яшчэ не будуць праводзіць, бо лік ці то ў % ці ў наяўных адзінках будуць жахлівымі. Раз так, то гэта сапраўды ненармальная з'ява ў грамадстве, у дзяржаве, у кіраўніцтве гэтай дзяржавы, і ў першую чаргу, у чалавеку які кіруе штатам дзяржаўных чыноўнікаў –"господину" А. Р. Лукашэнку. Выдзяляю знарок слова "господин" на рускай мове, бо прэзідэнт і яго атачэнне могуць не разумець беларускамоўнага слова "спадара", якое (слова) з СМІ ўжо чыноўніцкім загадам забаронена ўжываць у афіцыйных дакументах, і г.д. Што датычыцца забароны нават аднаго нацыянальнага слова "спадар" то гэта відавочная і чарговая бязглуздзіца, дурымаршчына дзяржаўных чыноўнікаў, якія вядома ж з шкуы лезуць, каб дагадзіць "кормчему". Што датычыцца расейскага слова "господин и господа" – якім я назваў прэзідэнта краіны, то яно – слова, сапраўды адпавядае рэчаіснасці (іх) жыццёвага ўзроўню. Мы сельскія жыхары, у тым ліку і я, як вясковы інтэлегент, супраць іх проста жабракі, "нищие" (каб было зразумела). Ці патрэбны доказы, аргументы, лічбы, працэнты? Я думаю, што кожнаму з вас, хто хоча пераканацца ў справядлівасці маіх сцвярджэнняў, трэба прыехаць у вёску і спачатку схадзіць на звычайныя вясковыя могілкі –падлічыць памерлых за апошніх 10 год, а затым прыйсці ў гэтую ж вёску і спытаць у яе жыхароў: — Людцы! Колькі ў вас нарадзілася дзяцей?!" Прапаную цікаўным і дапытлівым параўнаць цэны на прадукты харчавання і рэчы першай неабходнасці ў сельскай краме і ў гарадской. Ці ж гэта не абсурд, ці не галавацяпства? Булка звычайнага чорнага хлеба ў сельскай мясцовасці даражэй у 2 (два разы). Я не кажу ўжо пра іншыя тавары, на якія нібыта, каб завязці ў сельскую мясцовасць павышаюць цэны "за перавозку". Хочацца спытаць "разумнікаў" у міністэрскіх крэслах: — Госпада міністры! Адкуль паступаюць прадукты харчавання, сыравіна на адзенне, абутак і г.д., ці ж не з вёскі? Чаму ж вёска не абдзірае вашыя ведамствы за перавоз з вёскі ў горад? Усе ўсклікнеце: — Гэта ж вар'яцтва, абсурд! А ці не вар'яцтва, ці не абсурд тое, калі вы з забітага селяніна здзіраеце тры шкуры за нейкі перавоз. Ці не вар'яцтва ў выхадныя і святочныя дні браць з людзей у асноўным з сельскіх жыхароў – "прэзідэнцкія" – удвая даражэй, грошы за праезд у грамадскім транспарце. Дзеля чаго?! Мо для таго, каб не маглі дзеткі з горада прыехаць і дапамагчы ў працы сваім нямоглым бацькам. Як інакш растлумачыць павышэнне цэн? Гэта ж яўны здзек, рабунак сярод белага дня! Людзі! Куды вы глядзіце? З каго вы здзекуецеся?! Мала таго, што 80 год Савецкай улады ставілі калгаснікам амаль адны "палачкі" на працадні, цяпер пачынаецце здзек як ксяндзы ў сярэдневеччы за продаж індульгенцый. З усяго бачнаага і яўнага, прыходзіш да высновы: — Ой, патрэбна Рэфармацыя!! Ды яшчэ якая" Годзе вам "господа" абшукваць зацюканых і згаллівых калгаснікаў на вашыя рэферэндумы, годзе з іх выціскаць апошнія сокі!

Паглядзіце на сённяшняга селяніна – беларуса, і між волі ўсплываюць словы з радкоў геніяльнага рускага пісьменніка, мінулага стагоддзя, Мікалая Някрасава з верша "Железная дорога": "— Стоит измождённый, сухой белорус".

Шаноўныя грамадзяне, суачыннікі! Трэба прааналізаваць склаўшуюся сітуацыю з цэнамі паміж горадам і вёскай, трэба ўглядзецца ў соцбыткульт сельскага працаўніка, каб зразумець, што наш беларус – селянін жыве горш за жыхара Нігерыі і Гватэмалы у 5-6 разоў. Хто давёў яго да такога стану?! Ці ж не апірышча прэзідэнту калгаснікі – пенсіянеры ў яго розных навацыях? То чаму тады пан вяльможны так кепска ставіцца да сваіх слуг – выкіне надбаўку да пенсіі – (даруйце, костку, як сабакам) у 15-20%, каб не "гаўкалі", і цішыня, благадаць. Цэны ж павялічваюцца на 50-70%. І дзе тая знакамітая барацьба прэзідэнта з мафіяй і карупцыяй?! Як пад'едзеш да горада, то нібы ў казку трапляеш – перад вачыма вырастаюць, як грыбы ў лесе, казачныя 2-3 і нават 4-х этажныя церамкі. Хто ў іх жыве, гномікі?! Вось суграмадзяне, на нашых вачах плююць нам у "харю" (твар) і кажуць: —Дождж ідзе! "Ці не пара нам рабіць высновы! Трэба сапраўды дапамагчы прэзідэнту, бо ён адзін, з гэтай мафіяй і карупцыяй, не справіцца. Паглядзіце на халупы ў вёсках у якіх часам жывуць інваліды вайны і працы. Дажыліся!

*Вёска Пасадзец, Лагойскі р-н, Сідарэвіч Мікалай Міхайлавіч*

### СЬМЕШКІ.

На прэс-канфэрэнцыі ў прэзідэнта Беларусі патаюцца:

-- Аляксандр Рыгоравіч, а колькі моў вы ведаеце?

-- Пяць!

-- Скажыце, калі ласка, што-небудзь па-нямецку.

-- Do you speek English?

-- Дык гэта ж па-ангельску?!

-- Тады пішыце шэсьць.

## ЗА ДОЎГІМ ДАЛЯРАМ

Калі б'ешся-б'ешся, а канцы з канцамі звесці не атрымліваецца, калі верх жыццёвых намаганняў — работа за некалькі дзесяткаў доляраў, бо больш ўсё роўна не атрымаеш, калі наперадзе вялікія траты, а падтрымкі чакаць няма адкуль, калі згублена праца і аніякіх перспектыў, калі... Увогуле ёсць маса прачын, якія штурхаюць нашых землякоў шукаць работу за кардонам. Пакінем тых, хто едзе назаўсёды. Пагутарым пра людзей, якія накіроўваюцца за мяжу часова, проста на заробкі. Як жывецца, як працуецца там беларускім "шабашнікам"? У якой ступені выгадныя такія паездкі? Я паспрабаваў апытаць сваіх землякоў з Гродзеншчыны.

Ужо даўно само сабой адбылося размеркаванне — кожны рэгіён Беларусі мае краіну, у якую пастаўляе працоўную сілу. Сярод такіх краін — Польшча, Чэхія, Расія, Германія. Грэцыя, Кіпр... Але самая прыцягальная, самая жаданая, самая-самая — зразумела, Амерыка.

**АМЕРЫКА**

Трапіць на заробкі ў Амерыку — мара. І, як любой мары, дасягнуць яе няпроста.

Па-першае, для паездкі патрэбны грошы і немалыя: ад паўтары да двух тысяч доляраў.
Па-другое — запрашэнне. Калі ў вас у ЗША ёсць сваякі ці добрыя знаёмыя, або калі вы едзеце па турыстычнай візе, то, акрамя фінансавых пытанняў, іншых амаль не ўзнікае. Калі не — запрашэнне прыйдзецца купляць у "сердобольных" землякоў, якія ўжо працуюць там, ці то разгарнулі на запрашэннях свой маленькі ўласны бізнес. Кошт запрашэння розны, у нас ён часам дасягае трохсот доляраў. Але тут трэба быць абачлівым, бо "новы амерыканскі" беларус можа прадаць некалькі запрашэнняў на адзін і той жа адрас, які ў амбасадзе ведаюць і на субяседванні там вам проста адмовяць. Дарэчы, у той жа амбасадзе вам неабходна даказаць, што за акіянам у вас сапраўды жыве сябар. Для доказу скарыстоўваюцца як ліставанне, так і "ярлыкі"— квітанцыі за тэлефонныя размовы. Прадстаўленне такіх папер таксама род паслугі, якая патрабуе асобнай платы.

Білет на самалёт у Амерыку набываецца ў два напрамкі: туды і назад. Каштуе ён дзесьці 1200 доляраў. Калі вы ляціце ў ЗША з дапамогай пасрэдніцкай ці турыстычнай фірмы, вашыя выдаткі будуць большыя на некалькі соцень доляраў.

Звычайна ніхто не едзе на пустое месца. Існуе папярэдняя дамоўленасць і вас у аэрапорце павінны сустрэць ды на першым часе дапамагчы з работай. Як правіла, напачатку ўсе імкнуцца ў Нью-Йорк і яго ваколіцы. Тыя, хто прыехаў, за рэдкім выключэннем, пачынаюць з будоўлі (гутарка пакуль пра мужчын). Існуе цэлая катэгорыя прадпрымальных людзей, што дамаўляюцца наконт работы. У большасці сваёй гэта палякі, якія асвоілі Амерыку яшчэ з сярэдзіны 80-х гадоў. Яны вядуць перамовы з гаспадарамі, наймаюць рабочых. Усе грашовыя аперацыі, у тым ліку і выплата заробку, здзяйсняюцца праз іх. Першапачаткова беларускі госць атрымлівае 6-7 доляраў у гадзіну — усё роўна, займаешся ты рамонтам страхі ці працуеш грузчыкам у мэблевай краме.

Галоўнае, чым адрозніваецца праца "там" і праца "тут", ахарактарызаваць можна коратка: культура выканання прафесійных абавязкаў. Напрыклад, рамонтнік, які працуе на даху, мае прымацаваны да кісці магніт, каб збіраць цвікі, што выпадкова падаюць. Той, хто працуе з азбестам — шкодным для лёгкіх рэчывам, — атрымлівае большы заробак. Але ў любым выпадку гэтыя грошы паводле амерыканскіх паняццяў, мізэрныя. Нашы людзі знахо-дзяцца ў ЗША на нелегальным становішчы, таму разлічваць на больш-менш кваліфікаваную працу няма сэнсу. Трапляюць туды, куды не тое што белы — апошні негр з Гарлема пагрэбуе ісці: надта ж цяжка фізічна і кепска ў сэнсе аплаты.

Што яшчэ? У дождж "на дахах" не працуюць, адпаведна ніхто і не плаціць. Жыллё? Звычайна некалькі чалавек здымаюць адну кватэру — так "на круг" танней. Харчаванне: за ўласны кошт. Бывае, што, каб расслабіцца пасля 12-гадзіннай працы, "арцель" выпівае. Часам хто-небудзь зрываецца ў запой, але гэта рэдка. Праз паўгода працы ў складчыну купляецца стары аўтамабіль, каб прасцей было дабірацца да работы. Да гэтага часу ў кампаніі ўжо пачынаецца дыферэнцыяцыя. Не ўсе могуць выконваць цяжкую работу ды ў такіх аб'ёмах і на працягу доўгага перыяду — таму пачынаюць шукаць новае месца працы. Хто-ніхто знаходзіць. Найбольш папулярная "экалагічная ніша" — месца начнога прыбіральшчыка ў супермаркеце. Аплата — сем доляраў у гадзіну. Няшмат, але ёсць магчымасць зэканоміць на ежы, бо можна вынесці (чытай — украсці) дастатковую, каб не галадаць, колькасць прадуктаў харчавання. Ды й сама праца лягчэйшая, бо выконваецца яна машынамі, якія не толькі мыюць, але і адразу сушаць падлогу. Некаторыя наймаюцца на фермы, але доўга там не затрымліваюцца — праца цяжкая ды і сезонная.

Жанчыны (з ангельскай мовай) у ЗША ў большасці сваёй працуюць гувернанткамі ці даглядаюць амерыканскіх "бэбі". Калі пашанцуе — трапляюць у добрую сям'ю. Найбольш эканомныя ды працавітыя могуць за два гады зарабіць да 30 000 доляраў. Дарэчы, наяўныя зробленыя грошы ніхто з сабой не вязе. На тэрыторыі Літвы ёсць фірмы, якія спецыялізуюцца на пералічэнні валюты ў Беларусь па банкаўскіх каналах. Часцей за іншых на заробкі ў ЗША едуць жыхары некалькіх раёнаў Гродзеншчыны.

**РАСІЯ**

Работа ў Расіі — варыянт не самы лепшы, але самы просты. Асноўны занятак — будоўля. Сярэдні заробак — чатырыста доляраў у месяц. Тыповы накірунак — Цюмень ці Маскоўская вобласць, дзе зараз актыўна ўзводзяцца катэджы для сталічных чыноўнікаў і "новых рускіх"

Кантралююць аб'екты выключна каўказцы. Калі на амерыканскай будоўлі існуе сістэма медыцынскай страхоўкі, дык у Расіі нават і размаўляць з табой пра гэта не будуць: здарылася траўма — твая праблема. Жыць звычайна даводзіцца ў будаўнічых вагончыках. Бывае, што наймальнік напрыканцы завяршэння будаўніцтва падсылае міліцыянераў, якія пачынаюць правяраць пашпартны рэжым ды адбіраюць дакументы, а то і ўвогуле адсылаюць брыгаду за межы Расіі. Вядомы выпадкі, калі рабочых абкрадала мафія. Некалькі гадоў таму трое рабочых з г.Масты Гродзенскай вобласці пасля атрымання грошай былі забіты і спалены ў вагончыку, у якім жылі.

**ПОЛЬШЧА**

Каб выехаць на работу ў Польшчу, існуюць некаторыя цяжкасці, але яны лёгка пераадольваюцца. Справа ў іншым. Там зараз цяжэй стала знайсці работу — вельмі вялікі наплыў канкурэнтаў з Украіны, якія згодныя выконваць тую ж працу за меншую плату.

Жанчыны паляць ды збіраюць клубніцы. За дзесяць дзён праполкі атрымліваюць дзесьці 70 доляраў. Увосень кабеты капаюць бульбу. Калі пашанцуе, могуць уладкавацца швачкай на падпольную фірму, якая шые адзенне. Тут "чыстымі" на рукі выходзіць 200 – 250 доляраў. Мужчыны зарабляюць на будоўлі: 300 – 500 доляраў. Асабліва высока аплачваецца праца плітачніка, але тут па-трабуецца якасць, якую не

кожны “наш” можа забяспечыць.

Працуюць беларускія грамадзяне, як правіла, у прыватным сектары. Зразумела, ніякай страхоўкі няма. На вуліцы можна апынуцца ў любы момант. Паміж рабочым і работадаўцам існуе толькі вусная дамоўленасць. Пастаянна існуе рызыка, што заявіцца паліцыя, якая дэпартуе “нелегала” на радзіму з адпаведнай адзнакай у пашпарце. Як правіла, пражыванне ды харчаванне забяспечвае наймальнік. Натуральна, жыллё пры такім раскладзе зусім неабавязкова адпавядае неабходным патрабаванням, гэта можа быць любое памяшканне. Нягледзячы на ўсё гэта, работа ў Польшчы лічыцца больш бяспечнай, чым у Расіі, і жадаючых адправіцца туды вельмі шмат.

**ЧЭХІЯ**

Тут нашых людзей найбольш ахвотна бяруць на некалькі прадпрыемстваў па перапрацоўцы крэветак: брудная ды цяжкая праца з аплатай 250 – 300 долараў у месяц без уліку харчавання ды пражывання.

**ГЕРМАНІЯ**

Мінус для жадаючага “пашабашыць” — вельмі строгі візавы рэжым. З-за гэтага ў беларускага рабочага-нелегала пакуль што ёсць праблемы з засваеннем новага рэгіёну. Але ўжо шмат шчаслівчыкаў навучыліся іх пераадольваць. Найбольш характэрная праца — на будоўлі.

**Увогуле, мы тут – не першыя і не апошнія. Жыхары тых краін, якія апынуліся ў крызісным становішчы, заўжды вымушаны шукаць заробкаў за мяжой. Іншая рэч, што кіраўніцтва такіх краін прызнае — гэта вымушаная мера, нам цяжка, думайце, людзі, самі, як выжываць. Нават само дамаўляецца з урадамі багатых дзяржаў, якім чынам забяспечыць сваім грамадзянам законную магчымасць падзарабіць. А ў нас?**

**А ў нас ганарліва будуюць “рынкавы сацыялізм”.**

**Язэп ПАЛУБЯТКА.**





OFFICE OF THE GOVERNOR
JRTC, 100 West Randolph, Suite 16
Chicago, Illinois 60601

GEORGE H. RYAN
GOVERNOR

December 30, 1999

Mr. Nikolas Prusky
Editor
Bielarusian Digest
1086 Forest Hills Ave. S.E.
Grand Rapids, MI 49546-3616

Dear Mr. Prusky:

As Governor of the State of Illinois, it is my pleasure to congratulate you on the 8th anniversary of your publication Bielarusian Digest.

Bielarusian Digest has provided countless Bielarusian Americans with an excellent source of national and community news. The depth of your coverage has given a wealth of information to those who are interested in the events and issues pertinent to citizens of Bielarusian descent. You can take pride in the many accomplishments that your publication has achieved.

On behalf of the citizens of Illinois, please accept my best wishes on this special occasion.

Sincerely,

George H Ryan

GEORGE H. RYAN
Governor

## Шарэцкі зьняў бел-чырвона-белы сьцяг

На тым тыдні да старшыні Шарэцкага прыехаў прызначаны на сэсіі Вярхоўнага Савету генэральны пракурор Беларусі, дэпутат Рыгор Пракаповіч.

Пасьля цырымоніі прадстаўленьня адбылася прэс-канфэрэнцыя для журналістаў. Яна праводзілася ў сядзібе Таварыства Беларускае Культуры, дзе месьціцца і кабінэт С.Шарэцкага. Перад прэс-канфэрэнцыяй сп.Шарэцкі загадаў зьняць са сьцяны бел-чырвона-белы сьцяг, чым выклікаў абурэньне гаспадароў памяшканьня. Аднак мусілі ўсё ж зьняць...

У пачатку новы пракурор паспрабаваў сказаць пару словаў пабеларуску:

— Шаноўныя спадарыні! Шаноўныя сябры! Мне вельмі прыемна быць у гэтым гістарычным будынку разам з вамі. Але па некаторых абставінах далейшую размову з вамі я буду вымушаны весьці на расейскай мове!

Гэты пасаж выклікаў неўразуменьне асабліва ў замежных журналістаў, бо ніхто ня ўцяміў, што гэта за “некаторыя абставіны”... На запыт карэспандэнта радыё “Polonia”, чаму з залі прыбралі беларускі сьцяг, пракурор адказаў так:

— Сёньня я ўсім вам хачу тут патлумачыць, што быў адзін цікавы момант у гісторыі, калі адзін генпракурор увязаўся моцна ў палітыку і што зь ім здарылася. А той пракурор, які сядзіць перад вамі, ніякай палітыкай займацца ня будзе! І будзе рабіць толькі тое, што прадугледжана законам! І я прашу лічыць вашыя пытаньні некалькі некарэктнымі і нясвоечасовымі.

Тутака ўжо і ў беларусаў, і ў небеларусаў усё ў галовах паблыталася. Што ж тады палітыка, калі ня згода заняць пасаду апазыцыйнага генпракурора? І чаму некарэктна пытацца ў беларускага пракурора пра беларускі сьцяг? Пры чым тут законы?

Аднак блытанінай усё гэта падаецца толькі на першы погляд. Пракурор сапраўды мусіць выконваць законы, прынятыя парлямэнтам. А менавіта Вярхоўны Савет 13 склікання заканадаўча адмяніў наш сьцяг, і герб, і мову. Цяпер яны і ў Вільню са сваімі законамі прыехалі...

Пасьля афіцыйных мерапрыемстваў віленскія беларусы вярнулі сваю сьвятыню на месца. Г. К.

# СЬВЯТКАВАНЬНІ Слуцкага Збройнага Чыну ў Замежжы.

**У Англіі...**

Згуртаваньне Беларусаў у В. Брытаніі сьвяткавала 79-ю гадавіну Слуцкага Збройнага Чыну 27-га Лістапада 1999 г. Урачыстасьць адбылася ў залі Беларускага Культурнага Цэнтру (Дом Сьв. Пятра) ў Лёндане. Адзначаньне гэтай гістарычнай падзеі пачалося Паніхідай за беларускіх герояў, якую адслужыў а. А. Надсон.

Пасьля Багаслужбы прысутныя перайшлі ў залю Культурнага Цэнтру. Старшыня ЗБВБ — сп-я Л. Міхалюк адчыніла сьвецкую частку ўрачыстасьці. У сваёй кароткай прывітальнай прамове яна падкрэсьліла гістарычную важнасьць Слуцкага Збройнага Чыну для беларускага народу. Яна запрапанавала ўшанаваць памяць Слуцкіх Герояў хвілінай цішыні.

Рэфэраты пра Слуцкія падзеі прачыталі студэнты Лёнданскага Ўнівэрсытэту І. Лабацэвіч і Іваноў. Яны падрабязна расказалі пра геразім паўстанцаў, якія мужна змагаліся супраць бальшавіцкае навалы. Вершы пра геразім Слуцкіх паўстанцаў дэклямавалі студэнт П. Шаўцоў ды іншыя.

Афіцыйная частка ўрачыстасьці закончылася сьпевам нашага нацыянальнага гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...” Нашыя маладыя студэнткі запрасілі прысутных на прынагодны пачастунак. Пры чарцы віна было прыемна падзяліцца сваімі ўражаньнямі з маладымі людзьмі. Час праляцеў хутка і цікава...

Сыльвэстар Будкевіч

**У Чыкага...**

Пятага лістапада 1999 г. ў царкве Сьв. Юрыя адбылося сьвяткаваньне Слуцкага Паўстаньня. У царкву сабраліся ‘старыя і новыя’ беларусы з Чыкага і ваколіц. Усіх запрасіла Беларуская Нацыянальная Рада, якую ачольвае сп. М. Каленік. Спачатку ў царкве адбылася Багаслужба ў часе якое беларускі бел-чырвона-белы сьцяг трымаў др. Юрый Шылаў, а амэрыканскі — старшыня царкоўнае ўправы Джордж Каленік. Пратаерэй Дзьмітрый Бушко адслужыў малебень за Беларускі народ і Беларускую дзяржаву. У сваёй казані а. Дзьмітрый закрануў тэму маральнага адраджэньня беларускага народу ды выкарыстаў таленавіты расказ нашага нацыянальнага пісьменьніка В. Быкава. Яго пропаведзь адазвалася ў сэрцах прысутных, а у вачох зьявіліся сьлёзы жалю...

Пасьля Багаслужбы ўсе прысутныя перайшлі ў царкоўную залю, дзе старшыня Беларускай Нацыянальнай Рады ў Чыкага сп. Міхась Каленік адчыніў сьвяточную ўрачыстасьць у чэсьць Слуцкага Паўстаньня. Прысутныя ўшанавалі хвілінай цішыні памяць змагароў за Вольную і Незалежную Беларусь. Прагучэў амэрыканскі гімн.

Прынагодны рэфэрат прачытаў гісторык Бандарцоў, у якім адзначыў, апіраючыся на працу Юркі Віцьбіча, што Слуцкае паўстаньне — ня проста паўстаньне, а яскравы, трагічны і рэальны крок у жыцьці і дзейнасьці Беларускай дзяржаўнасьці...

Мастом, які злучыў гісторыю і сучаснасьць, стаў паказ дакумэнтальнай стужкі, атрыманай з Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі, — “Марш Свабоды 17-га кастрычніка 1999 г.” Марш, які адбыўся ў Менску, быў скіраваны супраць здрадніцкай дамовы паміж Беларусьсю і Расеяй і стаў вялікім масавым пратэстам Беларусаў супраць рэжыму А. Лукашэнкі. Урачыстасьць закончылася агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі...”

Віктар Баброк.

Падобныя ўрачыстасьці прысьвечаныя ‘Слуцкаму Паўстаньню’ адбыліся таксама ў Кліўлендзе, Нью-Ёрку, Канадзе, Аўстраліі ды іншых месцах беларускага расьсяленьня ў сьвеце.

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!!!

**Моцна просім не забывацца перасылаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. “Беларускі Дайджэст”— незалежная газэта выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, просім, памятайце пра нас... Шчыра дзякуем!**

## Інстынкт захаваньня нацыі

Беларускі савецкі фантом посьпехаў роднае мовы быў для каго суцяшэньнем, а для каго й спосабам прыкрываць сапраўдную моўную палітыку ў БССР. І партыйныя рапарты пра тое, што «79% беларусаў уважаюць беларускую мову роднай», мала стасаваліся з рэаліямі, дзе жывой мове не было месца. У цяперашняй афіцыйнай публікацыі зь немаведама якой боязі няма лічбы, колькі ж беларусаў лічаць сваю мову роднай сёньня. «Назвалі роднай мовай мову сваёй нацыянальнасьці амаль 82 працэнты насельніцтва рэспублікі… У 1989 годзе гэты паказчык склаў адпаведна 78 працэнтаў». І што з гэтага вынікае?

Найперш тое, што працэс нацыянальнага самаўсьведамленьня беларусаў за апошнія 5 гадоў спыніць не ўдалося. Наадварот, у нацыі спрацаваў інстынкт самазахаваньня. Няцяжка падлічыць, зважаючы на папярэднія перапісы й колькасьць нацыянальных меншасьцяў, што роднай сваю мову гэтым разам назвала блізу 90% беларусаў. Гэтую лічбу вырашылі не публікаваць. Каб не даваць нам, народу, падставаў для аптымізму і лішніх развагаў пра тое, што мы дастаткова сталая нацыя, каб самастойна наладжваць сваё жыцьцё, без саюзу са «старэйшымі братамі».

Так ці інакш, атрымліваецца, што парасейску ў нас гаворыць толькі (толькі!) 59 працэнтаў беларусаў. І тут яшчэ адна сэнсацыйная навіна: беларусаў стала больш! Нягледзячы на няўхільнае скарачэньне насельніцтва, высокую сьмяротнасьць, замалую нараджальнасьць, эміграцыю. Беларусаў у Беларусі цяпер больш за 8 мільёнаў 157 тысячаў.

Яшчэ ў 1994 годзе, упершыню за ўсе паваенныя гады, насельніцтва Беларусі скарацілася на 22 тысячы чалавек. Навукоўцы таксама назвалі гэта сэнсацыяй і абяцалі кепскія часы. І вось за апошнія гады насельніцтва скарацілася ўжо на 107 тысячаў чалавек. Гэта больш, чым жыхароў Мазыра ці Ліды… І зноў у статыстычныя зьвесткі закрадаецца палітычнае вытлумачэньне: «На сучасную структуру насельніцтва Беларусі зрабілі йстотны ўплыў ня толькі падзеі апошніх дзесяці гадоў, але і…» Тут прыводзіцца пералік гістарычных фактараў, які замыкае Чарнобыль. Пад «падзеямі апошніх дзесяці гадоў» ананімныя аўтары маюць на ўвазе незалежнасьць краіны. Аднак чарнобыльская трагедыя здарылася за 5 гадоў да таго. Пасьля ж распаду СССР, толькі ў 1992 годзе насельніцтва нашае дзяржавы вырасла аж на 65 тысячаў чалавек. А вось скарачацца яно стала толькі пасьля абраньня прэзыдэнтам Лукашэнкі, менавіта з 1994 году. Відаць, ня ўсе пажадалі заставацца ў краіне, што «не пайшла за цывілізаваным сьветам».

Каго ж стала меней? Найперш расейцаў. З 1989 году іх стала меней роўна на 200 тысячаў і на 2% меней ад агульнае колькасьці жыхароў Беларусі. На 84 тысячы стала меней жыдоў і іхны працэнт ад усіх астатніх цяпер складае мізэр — 0,3%. Што мы страцілі з ад'ездам зь Беларусі жыдоў? Калі гаварыць толькі моваю статыстыкі, атрымаецца гэтак: сярод іх людзей з вышэйшай адукацыяй было больш як 41 працэнт, а сярод беларусаў менш як 12. Вось і падлічыце...
Украінцаў стала меней на 54 тысячы. На 22 тысячы паменела палякаў.

А вось беларусаў зь мінулага перапісу стала болей! Больш як на чвэрць мільёна, на цэлыя 254 тысячы! Цяпер беларусы складаюць ужо 81,2% ад усяго жыхарства краіны. Гэта самы вялікі працэнт за ўсю гісторыю перапісаў. Кроніка й структура гэтага прыросту выглядаюць наступным чынам. Багата беларусаў павярталіся з чужыны ў родны край. (Напрыклад, у 1991-м насельніцтва Беларусі вырасла на 20,4 тысячы чалавек.) А пік вяртаньня прыпаў на той 1992 год, калі ўсё нібы ставала на свае месцы: мова і сымбалі, ідэалы й жаданьні, свабода. Таксама за апошнія гады багата людзей вызначыліся са сваёй нацыянальнай прыналежнасьцю на беларускую карысьць. Верагодна гэта адбылося найперш за кошт асыміляцыі расейцаў і ўкраінцаў.

І нараджальнасьць была высокай менавіта ў тыя гады, напрадвесьні незалежнасьці. Колькасьць дзяцей ва ўзросьце ад 10 да 14 гадоў вырасла за апошняе дзесяцігодзьдзе блізу як на 100 тысячаў. Гэта дзеці незалежнай Беларусі. Аднак за апошнія чатыры гады нараджальнасьць рэзка зьменшылася. І дзетак да 4 гадоў у нас стала значна меней. У 1989 іх было 819 тысячаў, а цяпер 476…

Аднак жыхароў Беларусі ўсё адно шмат больш, чым у якіх Нарвэгіі ці Швэйцарыі, Фінляндыі ці Аўстрыі. І ў тых краёх на тое не наракаюць. Бадай, ня толькі ў колькасьці справа.

**Гары Куманецкі**

## 3,7 мільёнаў чалавек гавораць у хаце па-беларуску

### Сэнсацыйныя вынікі апошняга перапісу ў Беларусі

Вынікі перапісу насельніцтва, падведзеныя Міністэрствам статыстыкі і аналізу, якія днямі надрукавала дзяржаўная прэса, сьведчаць, што ў Беларусі цяпер жыве 10 мільёнаў 45 тысячаў чалавек. Гэта крыху больш, чым у Бэльгіі ці Баўгарыі, і крыху менш, чым у Грэцыі ці Партугаліі. Беларусь пасярэдзіне.

Пацьвердзіўся і наш нядаўні прагноз наконт жыдоў — іх у Беларусі засталося ўжо нават ня 30, а толькі 28 тысячаў. Можна было прадбачыць і некаторыя іншыя зьмены. Напрыклад, старэньне насельніцтва й рост эміграцыі.

Але ёсьць і аптымістычныя лічбы. Нягледзячы на скажэньні традыцыйнага зьместу пытаньняў пра моўную практыку (што выклікала трывогу й пратэсты з боку беларускамоўных), 41% пашпартных беларусаў сьцьвердзілі, што яны ў хаце гавораць па-беларуску. Вынік сапраўды сэнсацыйны — 37% усіх людзей у Беларусі, паводле перапісу, гавораць па-беларуску! Відавочна, такая статыстыка не задаволіць «заказчыкаў» апытаньня. Таму аўтары кароткай справаздачы не ўтрымаліся ад эмацыйных ацэнак і прыпісалі, што па-беларуску дома гаворыць «аднак… усяго…» 41% беларусаў. Калі для Міністэрства статыстыкі і аналізу пад 4 мільёны чалавек — гэта толькі «ўсяго»… Лічбы перапісу дазваляюць зусім з новых пазыцыяў гаварыць аб правах беларускамоўных.

## Апошні шлях кс. Адама Станкевіча

50 гадоў таму ня стала ксяндза Адама Станкевіча. Нядаўна ў «Пагоні» я прачытаў згадку пра кс. Адама Станкевіча, які загінуў, прысуджаны бальшавікамі да 25 гадоў зьняволеньня, у сталінскім канцлягеры 29 лістапада 1949 году. «Загінуў у Тайшэце пры невядомых абставінах», — піша газэта. Аднак абставіны тыя вядомыя, бо жыве яшчэ чалавек, які хаваў вялікага беларускага патрыёта.

Віктар Сікора трапіў у тайшэцкі «Озерлаг» у 1949 годзе. Туды яго перавялі зь якуцкіх залатых капальняў. Менавіта ў Тайшэце Сікора і ўбачыў памерлага кс. Станкевіча, якога ведаў яшчэ з даваенных часоў.

Успамінае Віктар Сікора: «У Тайшэце быў асобы закрыты рэжымны канцлягер. Зьняволеныя мелі нумары на сьпіне, нагавіцах і шапцы… Працавалі па 12 гадзінаў у дзень, і гэта толькі «чыстая» праца. Кожныя дзьве гадзіны нас пералічваў канвой… У Тайшэце шмат беларусаў сядзела. Былі й такія, што партызанілі пасьля вайны. Былі і былыя «франтавікі» з Чырвонай арміі. Яны хоць «іскуплялі» крывёю сваю «віну», але іх усё адно бальшавікі пасадзілі…

Самы мой жудасны ўспамін з Тайшэта — гэта пахаваньне ксяндза Адама Станкевіча. Памятаю, як прыйшлі літоўцы і кажуць: «Ксёндз у нас памірае. Як бы вады знайсьці?» А ў нас там вады не было. Рабілі сьвідравіны, але да 84-мэтровай глыбіні яе не знайшлі ды не змаглі прабіцца глыбей — далей была скала… А рэчка знаходзілася аж у 7-мі кілямэтрах ад лягеру. Зьбіралі дажджавую ваду, а зімой даводзілася нам зьбіраць сьнег і тапіць яго. Ужо пазьней нам далі машыну, і мы вазілі лёд зь невялічкай рэчкі, нарыхтоўвалі яго, перасыпалі пілавіньнем…

Дык вось, просяць літоўцы вады. — А адкуль ён? — пытаюся я. — Зь Вільні, — адказваюць. Я прынёс сьнегу, растапіў яго, і яны панесьлі ваду. Пасьля літоўцы зноў прыходзяць. Я кажу: — А вы ня скажаце прозьвішча ксяндза, не Станкевіч? — Станкевічус Адомас, — адказваюць яны. Распытаў я, у якім бараку ён ляжыць і пабег туды, а Станкевіч быў ужо мёртвы… Яго было цяжка пазнаць…

У Тайшэце было так устаноўлена, што калі каго хавалі, абавязкова нябожчыка спачатку прывозілі ў морг, каб зрабіць ускрыцьцё. Баяліся, каб хтосьці жывы ня ўцёк пад выглядам мёртвага. «Працаваў» там адмысловы «мясьнік», які ўпрост ірваў труп на кавалкі…

Вырашыў я, што пахаваю ксяндза Адама, правяду яго ў апошнюю дарогу. Узяў сані, палазы якіх былі з дрэва зробленыя. Вёз іх на сабе, бо коней не было. Дагэтуль я не магу быць на пахаваньнях, бо не магу забыць таго, што адбылося ў Тайшэце… Падвозім сані да варотаў. Яны адчыняюцца. Зь дзяжуркі выходзіць «мясьнік» з «кішнёй», што рыбакі зімой лёд прабіваюць. І ёй ксяндзу ўдарыў у грудзі… А пасьля другі выходзіць з кувалдай і б'е яго па галаве. Праламіў яе, паляцелі мазгі…

Я ледзь не самлеў. Ляжыць ксёндз Адам Станкевіч у труне (хоць гэта толькі названьне, а не труна), увесь заліты крывёю…»

**Запісаў Сяргей Ёрш**

**Далейшыя ахвяраваньні на Беларускі Музэй у Гайнаўцы,**
**Беласточчына...**

**218. а. Аляксандр Яноўскі (Канада) $100.oo**
**219. Якуб Сапежынскі $100.oo**

Прадаўжэньне ЛІСТЫ ахвярадаўцаў у наступным № нашае газэты...

Моцна просім нашых чытачоў перасылаць свае ахвяры на Музэй на наш адрас, на прозьвішча М. Прускі.

**<u>Увага! Увага!</u> Калі Вы, паважаны чытач, з нейкіх прычын, не змаглі пераслаць Вашую ахвяру дасюль, зрабіце гэта цяпер. Акцыя збору ахвяраваньняў даходзіць да канца. Чакаем на водгукі... Дзякуем за ўвагу!**

### Дарагія Сябры і Прыхільнікі!

Ніжэй друкуем гадавы СЬПІС нашых сяброў і людзей добрае волі, якія — адны больш, іншыя менш — выдатна і шчыра дапамаглі нашай агульнай справе...

**Усім Вам Вялікае Дзякуй!**

Усе ахвяраваньні падаюцца ў пераліку на амэрыканскія даляры.

У 1999-м годзе мы атрымалі наступныя ахвяраваньні на публікацыю газэты "Беларускі Дайджэст":

**I.**

**Ахвяры $200.oo, ці больш даляраў...**

1. **А. Груша** з роднымі і сябрамі, — замест кветак на сьвежую магілу жонкі Надзі Груша, (Аўстралія) $1,320.17
2. **Натальля і Анатоль Лук'янчык** $500.oo
3. **Др. Мацьвей В. Смаршчок** $355.oo
4. **Вера і Праньціш Бартуль** $300.oo
5. **Др. Барыс Рагуля** (Канада) $269.oo
6. **Сыльвэстар Будкевіч** (Англія) $260.oo
7. **Міхась Каленік** $250.oo
8. **Міхась Лужынскі** (Аўстралія) $226.oo
9. **Др. Уладзімір Набагез** $200.oo
10. **а. Аляксандар Яноўскі** (Канада) $200.oo
11. **Якуб Сапежынскі** $200.oo

**II.**

**Ахвяры $100.oo, ці больш даляраў...**

1. Мікола Грэбень $170.oo
2. Віктар Ліпскі (Аўстралія) $162.oo
3. Віталі Кажан $150.oo
4. Лёнгіна Брылеўска $150.oo
5. Мікола Сьнежка $150.oo
6. а. Міхась Бурнос (Аўстралія) $145.oo
7. Ванда Махнач $140.oo
8. Каця Вініцка $130.oo
9. П. Шыркоўскі (Англія) $119.oo
10. Паўло Гуз (Аўстралія) $102.oo
11. Кляра Кумэйша $100.oo
12. Др. Язэп Сажыч $100.oo
13. Др. Вітаўт і Зора Кіпель $100.oo
14. Юзя Найдзюк $100.oo
15. Нікадэм Жызьнеўскі $100.oo
16. Кляра Пануцэвіч $100.oo
17. Алесь Захаркевіч $100.oo
18. Уладзімір Ракуць $100.oo
19. Кастусь Вайцяхоўскі $100.oo
20. Надзя Касмовіч (Нямеччына) $100.oo
21. Зоя Смаршчок (Бельгія) $100.oo
22. Алла Орса-Рамано $100.oo
23. Др. Юрка Кіпель $100.oo
24. Юстын Ягоўдзік $100.oo

**III.**

**Ахвяры $50.oo, ці больш даляраў...**

1. Др. Віталі Міленцэвіч (Аўстралія) $96.50
2. Беларускі Патрыёт (Англія) $95.oo
3. Уладзімір Пелеса $80.oo
4. Славік Шабовіч $80.oo
5. Расьціслаў Завістовіч $80.oo
6. а. Вячэслаў Ільчук $75.oo
7. Янка Юхнавец $70.oo
8. а. Міхась Страпко $70.oo
9. Пятро Пікулік $65.oo
10. Язэп Бабіцкі $65.oo
11. Васіль Сяргіевіч $60.oo
12. Мікола Галоўка $55.oo
13. Арсень Монід (Канада) $50.oo
14. Др. Марыя Дэмковіч $50.oo
15. Аляксандра Воран $50.oo
16. Броніслаў Даніловіч $50.oo
17. Беларуска-Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне, Кліўленд, Огайо $50.oo
18. Георг Арцюшэнка $50.oo
19. Анна Брушкевіч $50.oo
20. Мікола Касьцюк $50.oo
21. Юрка Касьцюкевіч $50.oo
22. Ольга Грыцук (Канада) $50.oo
23. Уладзімір Бельмач (Канада) $50.oo
24. Лявон Кавалёў $50.oo
25. Гэнрык Сенькевіч $50.oo
26. Яніна Каханоўская $50.oo
27. Уладзімір Сітнік $50.oo
28. Мікола Абрамчык $50.oo
29. Люіс Колін $50.oo
30. Адольф Субота $50.oo
31. Міхась Белямук $50.oo
32. Астап Яраховіч $50.oo
33. Васіль Плескач $50.oo
34. М. К. (Канада) $50.oo
35. Алесь Непейн $50.oo
36. Юлія Андрусышын $50.oo
37. Мікола Вайтовіч $50.oo
38. Др. Міхась Жылік $50.oo
39. Міхась Пашкевіч (Канада) $50.oo
40. Барыс Русак $50.oo
41. Юрка Станкевіч (Чэхія) $50.oo
42. Аўген Завістовіч $50.oo
43. Алла Дубяга $50.oo
44. Моніка Банькоўска (Швайц.) $50.oo
45. Элізабэт Літаровіч $50.oo
46. В. Валаткевіч $50.oo
47. Марыя Кулагін $50.oo
48. Таня Лецка-Карніловіч $50.oo
49. Гаэз Маталыцкі $50.oo
50. Багдан Паўк $50.oo
51. Ольга Канарчук $50.oo
52. Ванкарэм Нікіфаровіч $50.oo
53. Лявон Салавей $50.oo
54. Таіса Чабатарэвіч $50.oo

**IУ.**

**Ахвяры $48.oo, ці менш даляраў...**

1. Ф. Жынгель (Англія) $48.oo
2. А. Ражанец (Англія) $48.oo
3. Надзя Барт (Нямеччына) $40.oo
4. Ліда Драздова $40.oo
5. Георг Корчык $40.oo
6. Ніна Кіт $40.oo
7. Уладзімір Русак $40.oo
8. М. Шведзюк (Англія) $40.oo
9. М. Дзейко (Англія) $40.oo
10. М. Баяроўскі (Англія) $40.oo
11. М. Залога (Англія) $40.oo
12. В. Еўдакімаў (Англія) $40.oo
13. М. Мароз (Англія) $40.oo
14. Васіль Багдан $40.oo
15. Янка Ханенка $40.oo
16. Пятро Касаты $40.oo
17. Павел Касаты $40.oo
18. Міхась Бахар $40.oo
19. П. Алексы $40.oo
20. Марат Клякоцкі $40.oo
21. Янка Шымчык $40.oo
22. Мэтр. Ізяслаў Бруцкі $40.oo
23. Антоні Філістовіч $35.oo
24. Яраслаў Калюцік $35.oo
25. В. Мартынчык (Англія) $32.oo
26. А. Семяшко (Англія) $32.oo
27. Алекс Шастак $30.oo
28. Др. Алесь Туркоўскі $30.oo
29. Міхась Калядка $30.oo
30. Віталі Церпіцкі $30.oo
31. Янка Грушык $30.oo
32. Юрка Рэпэцкі (Канада) $30.oo
33. Пятро Нягода $30.oo
34. Паўло Васілеўскі $30.oo
35. Валя Мазуро $30.oo
36. Васіль Шчэцька $30.oo
37. Анатоль Таліанскі $30.oo
38. Алесь Кузьміч $30.oo
39. Вольга Яськевіч $30.oo
40. Валентына Яцэвіч $30.oo
41. Стывэн Махакей $30.oo
42. Мікола Латушкін $30.oo
43. Сямён Дудар $30.oo
44. Жорж Наумчык $30.oo
45. Кастусь Верабей $25.oo
46. Міхась Шыбеко $25.oo
47. Л. Гроггель $25.oo
48. Барыс Данілюк $25.oo
49. Леў Стагановіч $25.oo
50. Др. Лявон Трусэвіч $25.oo
51. А. Айі (Канада) $25.oo
52. Валенціна Ваксэліс $25.oo
53. Алесь Міцкевіч $25.oo
54. Кастусь Калоша $20.oo
55. П. Парфенаў (Канада) $20.oo
56. Янка Каваленка $20.oo
57. а. Эмідэуш Рыжы $20.oo
58. Сьцяпан Наумчык $20.oo
59. Ліда Катовіч $20.oo
60. Янка Наваградзкі $20.oo
61. Віктар Балтрусевіч $20.oo
62. Мікола Александар $20.oo
63. Еўгеня Юршо (Аўстралія) $16.oo
64. Масей Сяднёў $15.oo
65. Галіна Бацюшко $10.oo
66. Алесь Легкашкур (Польшча) $10.oo
67. а. Максім Таўпека (Канада) $10.oo
68. Вацлава Вярбоўская $10.oo

**Вось так выглядае фінансавая справаздача "Беларускага Дайджэсту". Каб паменшыць паштовыя ды іншыя выдаткі, мы вымушаныя не высылаць газэту усім тым, хто нас не падтрымоўвае. Такая рэчаіснасьць...**

**Яшчэ раз шчыра дзякуем Усім нашым дабрадзеям і прыхільнікам... God bless you!**

## Адзін з кіраўнікоў паўстання вязняў Нарыльскага ГорЛага Р.Клімовіч лічыць, што беларусам не дазваляе стаць вольнымі страх, які прадаўжае ў іх жыць

"Страх, які і сёння прадаўжае жыць сярод беларусаў, не дазваляе ім стаць свабоднымі людзьмі". Такую думку выказаў Рыгор Клімовіч – аўтар кнігі "Канец ГорЛага", прэзентацыя якой адбылася вечарам 5 кастрычніка ў Менску ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы. Кніга выдадзена Архівам найноўшай гісторыі Беларускага гуманітарнага фонду "Наша Ніва". Яе аўтар правёў у спецлагерах ГУЛага 13 гадоў і быў адным з кіраўнікоў паўстання вязняў Нарыльскага ГорЛага. Па словах Рыгора Клімовіча, у ГорЛагу налічвалася боль пяці тысяч беларусаў, якія разам з прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцяў арганізавана падняліся на паўстанне пад Чорна-чырвоным сцягам (колеры абазначалі адмаўленне савецкай сістэмы і пралітую крой вязняў) за свабоду чалавека і свабоду народа. Паўстанне было жорстка задушана і толькі канчына Лаўрэнцья Берыі выратавала жыццё Р. Клімовіча і яго 1.500 таварышаў, што прынялі ўдзел у паўстанні і былі прыгавораны да смерці. "Мы вышлі з лагера больш вольнымі, чым савецкія людзі, што жылі ў стране на волі", --- заявіў на прэзентацыі Р. Клімовіч. Што тычыцца сённяшняй сітуацыі ў краіне, то, на думку былога палітвязня, усім апазіцыйным сілам неабходна аб'яднацца перад тварам дыктатарскага рэжыму, адноўленага ў Беларусі і выкарыстоўваць духоўны досвед з ветэранаў нацыянальнага вызвольнага руху. Асаблівае значэнне, адзначыў Р. Клімовіч, мае "пакаянне нацыі за духовую слепату і абыякавасць у недалёкім мінулым",- "сённяшні рэжым у Беларусі не зможа існаваць без свайго ГУЛага, і гэта можа адбыцца дастаткова хутка. І не думайце, што вашага суседа арыштуюць першым, першым якраз возьмуць тога, хто так думае", - папярэдзіў Р. Клімовіч. Вядомы палітвязень выказаў шкадаваньне з нагоды таго, што досвед удзельнікаў супраціву таталітарнаму рэжыму, якія падняліся супраць яго ў экстрэмальных умовах, так і не стаў набыткам народа Беларусі.

Рэдактар кнігі, дырэктар Архіва найноўшай гісторыі Алег Дзяркові адзначыў, што аўтар не паддаўся спакусе мадэрнізацыі падзей мінулага і захаваў у сваіх успамінах дух часу. Ён выказаў удзячнасць вядомаму польскаму фотамайстру Томашу Кізнаму за магчымасць выкарыстання ў выданні фотаздымкаў з цыклу "Час імперыі", зробленых у канцы 50-х гадоў на месцах былых савецкіх лагераў. Прэзыдэнт маладзевага культурна-асветніцкага цэнтра "Яравіт" (Гомель) Яўген Касцюшка заўважыў, што такія людзі, як Рыгор Клімовіч, з'яўляюцца жывымі крыніцамі лепшых чалавечых якасцяў, якія дазволілі ім перажыць трагічны лёс і захаваць чалавечую годнасць. Паводле яго словаў, абапіраючыся менавіта на такіх людзей, Беларусь павінна будаваць сваю лепшую будучыню. Выдатна выданую, накладам у 500 асобнікаў, кнігу дадае спіс беларусаў, што ўзначалілі падчас Нарыльскага паўстання беларускую супольнасць, слоўнік спецыфічнай лексікі і некалькі планаў ГорЛага.

*Марат Гаравы, БелаПАН*



# Новы 2000-ы Год...



| | СТУДЗЕНЬ JANUARY | ЛЮТЫ FEBRUARY | САКАВІК MARCH | |
|---|---|---|---|---|
| Пан. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 6 13 20 27 | Mon. |
| Аўт. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 7 14 21 28 | Tue. |
| Сер. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 | 1 8 15 22 29 | Wen. |
| Чац. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 2 9 16 23 30 | Thu. |
| Пят. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 3 10 17 24 31 | Fri. |
| Суб. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 4 11 18 25 | Sat. |
| Няд. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 5 12 19 26 | Sun. |

| | КРАСАВІК APRIL | ТРАВЕНЬ MAY | ЧЭРВЕНЬ JUNE | |
|---|---|---|---|---|
| Пан. | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Mon. |
| Аўт. | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Tue. |
| Сер. | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Wen. |
| Чац. | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Thu. |
| Пят. | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Fri. |
| Суб. | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Sat. |
| Няд. | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Sun. |

| | ЛІПЕНЬ JULY | ЖНІВЕНЬ AUGUST | ВЕРАСЕНЬ SEPTEMBER | |
|---|---|---|---|---|
| Пан. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | Mon. |
| Аўт. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | Tue. |
| Сер. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | Wen. |
| Чац. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | Thu. |
| Пят. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | Fri. |
| Суб. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | Sat. |
| Няд. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | Sun. |

| | КАСТРЫЧНІК OCTOBER | ЛІСТАПАД NOVEMBER | СНЕЖАНЬ DECEMBER | |
|---|---|---|---|---|
| Пан. | 2 9 16 23 30 | 6 13 20 27 | 4 11 18 25 | Mon. |
| Аўт. | 3 10 17 24 31 | 7 14 21 28 | 5 12 19 26 | Tue. |
| Сер. | 4 11 18 25 | 1 8 15 22 29 | 6 13 20 27 | Wen. |
| Чац. | 5 12 19 26 | 2 9 16 23 30 | 7 14 21 28 | Thu. |
| Пят. | 6 13 20 27 | 3 10 17 24 | 1 8 15 22 29 | Fri. |
| Суб. | 7 14 21 28 | 4 11 18 25 | 2 9 16 23 30 | Sat. |
| Няд. | 1 8 15 22 29 | 5 12 19 26 | 3 10 17 24 31 | Sun. |



Бараніце беларускую мову,
незалежнасьць, культуру і славу!
Падтрымоўвайце нашу агульную,
замежную, незалежную газэту —
«Беларускі Дайджэст»!





НЕКАТОРЫЯ БЕЛАРУСКІЯ СЬВЯТЫ на 2000 год...

1-га Студзеня — Новы 2000-ы год.
7-га Студзеня — Каляды (Праваслаўныя, стары стыль)
15-га Сакавіка — Дзень Канстытуцыі Беларусі.
25-га Сакавіка — Дзень Незалежнасьці, гістарычны.
23-га Красавіка — Вялікдзень (Каталіцкі).
30-га Красавіка — Вялікдзень (Праваслаўны).
27-га мая — Дзень Незалежнасьці (новы).
27-га Лістапада — Дзень Славы- Слуцкае Паўстаньне.
25-га Сьнежня — Каляды (Каталіцкія)